Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 33 (84). Вільня, Субота 9 Красавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Да працы!

Прэзыдэнт чэхаславацкай рэспублікі вялікі грамадзянін і дэмакрат Масарык у аднэй з сваіх пісьменьніцкіх працаў адзначыў, што чэскі народ на шляху свайго адраджэньня і поўнага вызваленьня прайшоў у сваім разьвіцьці тры этапы: філялёгічны, эканамічны і палітычны. З пачатку тварылася і апрацоўвалася мова, пасьля пачаўся рух і барацьба за ахапленьне жыцьця гаспадарчага, у мэтах вырваць з чужацкіх рук промысел і гандаль і палепшыць палажэньне земляроба. Калі дасягнаньні на гэтым другім этапе дапялі мэты, стала на парадку дня пытаньне аб сваей уласнай дзяржаве.

Гэтакі падзел чэскага адраджэнска-вызвольнага нацыянальнага руху для нас у некаторых выпадках можа быць прыкладам.

Гэты рух зьдзейсьніўшы нацыянальныя чэскія ідэалы, выразна сьведчыць, якое значэньне мае для кожнага паняволенага народу—здабыць эканамічную незалежнасьць і стаць на свае ўласныя ногі ў гаспадарчым жыцьці. Да таго часу пакуль народ не палепшыць сваей земляробскай гаспадаркі, пакуль ня культывіруе яе, пакуль ня збудуе ўласны промысел і гандаль — цяжка здабыці і ўтрымаці палітычныя правы.

Мы, Беларусы, асабіста, толькі што пачынаемо будаваць сваё нацыянальнае жыцьцё. Але калі прагледзім кароткі працяг адраджэнскай гісторыі, дык перадусім угледзім, што і мы таксама як Чэхі, пачалі адраджэнскі рух ад мовы і што гэты першы этап нашага адраджэньня філялёгічны, амаль што дапяў сваей мэты. Цяпер мы пераходзім на новы эканамічны этап да культуральна-гаспадарчага будаўніцтва, да ахапленьня намі культурна-гаспадарчага жыцьця нашага краю і народу.

Якім шляхам, парадкам ці спосабам мы можам зьдзейсьніць гэта? — Арганізацыяй,—вось мой пэўны і станоўчы адказ!

Разумеючы гэта, лепшыя дзеячы Беларускага Народу год таму назад залажылі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

Як ужо відаць з вышэй пададзенага, галоўнаю мэтаю Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ёсьць—пашырэньне культуры як духовай, гэтак і матэр'яльнай цераз асьвету і палепшаньне гаспадарчага палажэньня цераз культурную працу і ахапленьне эканамічнага жыцьця ў свае рукі цераз коопэрацыю ўва ўсіх галінах прамысловасьці і мены. З мэтаю зьдзейсьненьня гэтых заданьняў Інстытут Гаспадаркі і Культуры закладае гурткі, якія арганізуюць бібліатэкі, чытальні, дамагаюцца роднае школы і наагул вядуць сваімі ўласнымі сіламі культурна-асьветную працу.

Інстытут арганізаваў і наладзіў коопэратыўна-гандлёвыя курсы, якія адбываюцца цяпер і якія маюць даць некалькі дзесяткаў падгатоўленых людзей да працы па коопэрацыі. Праўда, усё гэта даецца вельмі цяжка: тут стаяць на перашкодзе і матэр'яльныя варункі і варожыя адносіны да ўсяго гэтага польскага ўраду і нашая неасьведамленнасьць. Але ўсё-ж-такі капля па каплі ўліваецца жыватворчага бальзаму ў наш падупалы, кволы народны арганізм і штораз, дык становіцца прыкмятнейшым нашае нацыянальнае жыцьцё, штораз, дык рухлівей і жвавей зарысоўваецца поступ у арганізованнасьці, штораз, дык яскравей і ясьней выяўляецца жаданьне і імкненьне шырокіх масаў да творчае працы над будаваньнем гаспадарчай самабытнасьці.

Усяму гэтаму ідзе на спатканьне і з дапамогаю мацы Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, але-ж на вялікі жаль ён сам як грамадзкая арганізацыя без падтрыманьня з боку народу ня можа выпаўніць сваіх мэтаў, а дзеля гэтага жадае каб усё тое, што мысьліць разумна і здарова ўлілося ў яго рады, каб разам вялікаю грамадой ісьці да веды і культуры. Праз веду і культуру мы будзем вызваляцца з гаспадарчае галіты. Праца культурна-гаспадарчая ня толькі не павінна адрываць нас ад палітычнае працы, а наадварот павінна яшчэ ўзмацоўваць яе. Ёсьць ведама, палітычныя варункі зьяўляюцца асновай, якая спрыяе або мяшае гаспадарча-культурнаму разьвіцьцю народу, аднак гэтае апошняе робіць свой націск на палітычнае жыцьцё. Меж ім існуе выразная залежнасьць. Дык, маючы на мэце ўсе Ідэалы Беларускага Народу прыступайма да арганізаванай працы, абымаючы паступова паасобныя галіны грамадзкага жыцьця.



Група слухачоў Беларускіх Коопэратыўна-Гандлёвых Курсаў у Вільні і сяброў Інстытуту ў 9-ыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. 25.III. 1927 г.

## БЕЛАРУСКІЯ КООПЭРАТЫЎНЫЯ КУРСЫ.

Выконваючы свае мэты, Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры адразу пасьля зацьверджаньня статуту, прыступіў да арганізацыйнае працы. Гэтая праца хоць павольным, але пэўным крокам увесь час ідзе ўперад. Заснаваныя дагэтуль 52 Гурткі Інстытуту вядуць ужо культурна-асьветную і іншую працу самі на месцы, ладзячы беларускія спэктаклі, лекцыі, пашыраючы беларускае друкаванае слова і арганізуючы бібліатэчкі-чытальні, дамагаючыся беларускіх школ і інш.

Незалежна ад складаньня дэклярацыяў (на жаль, гэтая праца яшчэ не дала пажаданых рэзультатаў, бо ўлады ўсё-роўна не даюць урадавых школаў) Інстытут падаў некалькідзесят заяваў на прыватныя беларускія школы. Але і прыватных школаў улады не даюць, бо Інстытут атрымаў усяго толькі 7 канцэсіяў, а з іх толькі два вучыцялі зацьверджаны. Такім чынам, Інстытут утрымлівае толькі дзьве прыватныя школы: адну ў Слонімскім, другую ў Браслаўскім павеце.

Незалежна ад арганізацыйнай культурна-асьветнай працы Інстытут паруціўся і аб грамадзкай працы на гаспадарчым грунце. Ёсьць ведама, гэтую працу ня лёгка весьці, бо яна вымагае вялікіх матэр'яльных сродкаў, якіх, якраз, Інстытут ня мае, бо яго сябры знаходзяцца ў цяжкіх матэр'яльных абставінах. Адзіная дарога, ідучы якой можна хоць крыху папраўляць нашу нацыянальную гаспадарку, ёсьць коопэрацыя. Толькі праз коопэрацыю, толькі праз супольную арганізаваную грамадзкую працу можна нам браць у свае рукі лей-

дзе стражніцы на паграніччы і якім да гэтага часу ня выплачана. Работнікі прасілі п. Ваяводу аб дапамозе ім у атрыманьні ад працадаўцаў запрацаваных грошай.

**— Спрэчка.** На фабрыцы „Зэмша“ у Новай-Вялейцы паміж работнікамі і фабрыкантамі паўстала спрэчка, дзеля таго, што ня выплачана работнікам належная заработная плата.

**— Канфіската.** № 3, беларускай газэты „Наша Праўда“ па загаду Камісара Ураду на м. Вільню канфіскаваны за перадавіцу „Праз акіян“.

# Што дзеецца ў сьвеце?

## Сытуацыя ў Кітаі.

Паміж Кантонцамі і паўночнымі буржуазнымі вайскамі Кітаю ідзе бойка, перавага ў якой астаецца за Кантонцамі.

У наступленьні на Пэкін, Кантонцы перашлі рэчку Жоўтую, недалёка Нанкіна; армія шакмунскага губэрнатара адступіла.

Чанг-Тсо-Лін мае намер распачаць контрнаступленьне проці Кантонцаў. Як удасца выканаць гэты плян, ня ведама; ёсьць чуткі быццам частка войск Чанг-Тсо-Ліна патаемна дагаварылася з Кантонцамі аб супольнай акцыі.

Міністар Кантонскага ўраду Чэн у прамове да карэспандэнтаў адзначыў, што рэвалюцыя ў Кітаі мае нацыянальны характар, але не камуністычны, хоць палітычная праграма Кантонцаў мае многа супольнага з камуністычнаю праграмаю. А дзеля гэтага самага Кантонцам карысна падтрымліваць добрыя адносіны з Масквою.

У будучыне магчымы ўдзел загранічнага капіталу ў гаспадарчым жыцьці Кітаю, але-ж пад апекаю ці пад наглядам кітайскага ўраду.

Нямецкія калёністыя не пагадзіліся з уладамі Чанг-Тсо-Ліна і дзеля гэтага пакідаюць правінцыі занятыя гэтаю ўладаю.

Здарыўся напад на Японскі консулят у Ханькоў, дзеля гэтых прычынаў японцы высадзілі ў Ханькоў свае войска.

## Бэтлен у Рыме.

Урадовая партыя Вэнгрыі начале з прэм'ерам Бэтленам—жыве лятуценьнямі на адбудову манархіі і пашырэньня Вэнгрыі аж да мора. Зьдзейсьненьне сваіх намераў Вэнгерцы бачаць у Саюзе з Італіяй, для заклапаньня якога, прэм'ер Бэтлен паехаў у Рым і гэтак угадзіў Італіі ў яе агрэсыўнай палітыцы на Балканах, што асабіста ад Мусаліняга атрымаў вялікую ісътужку ордэну Сьвятых Маўрыцыя і Лазара.

## У Літве.

Паводле польскіх газэт на чугунучнай станцыі ў Коўне палітычная паліцыя арыштавала пасла Сойму Паюса, які належыць да літоўскай народнай партыі. На знак пратэсту проці пагвалчэньня Канстытуцыі, сябры народнай партыі пакінулі паседжаньне камісіі замежных спраў.

## Маніфэстацыя ў Данцыгу.

У вольным Данцыгу адбылася маніфэстацыя Немцаў. Гэтая маніфэстацыя выказала зусім натуральнае ймкненьне данцыгскіх Немцаў да дзяржаўнага аб'яднаньня з Нямецкай Рэспублікаю.

Данцыгскія газэты між іншым пішуць: „Ня можам ніколі дапусьціць да таго, каб маладое Нямецкае пакаленьне забылася аб вайне. Супольнаю мэтаю ўсіх Немцаў ёсьць сёньня дайсьці да таго, каб новая вялікая Нямеччына аб'яднала ўсіх Немцаў гэтак, каб ніякі Немец ня жыў за граніцамі нямецкае дзяржавы“.

## Перад разаружэньнем.

У Жэнэве радзіць камісія аб падгатоўцы канфэрэнцыі аб разаружэньні, а над гэты „шумок“ — Францыя павялічвае ваенны флот на моры, а Гішпанія і Італія паветранны. Дый наагул усе дзяржавы спадзяюцца вайны, бо ўзбаруваюцца з мэтай захвату чужых тэрыторыяў.

## Францыя і Нямеччына.

Паміж Францыяй і Нямеччынай падпісаны правізарычны (часовы) гандлярчы дагавор, які будзе надставаю для запраўднага гаспадарчага дагавору.

**Прысылайце грошы на падпіску.**

* * *

Падпісалася ты на бачыні
Процiў даты ў бягучым тым дню:
Я заўважыў і ў той-жа хвіліні
Запаліўся ў пламеньнях вагню,
Мне хацелася ўбачыць рыскі
Твае, люба, ў сшыточку падпіскі.

Ты пазнала ўсё гэта адразу
І нявольны усьмешак усплыў
На рубочкі між вуснаў для сказу,
Пазваленьня ён знакам мне быў,
А таемныя вочы з забавы
Гаварылі «які ты цікавы!»

* * *

Ты глянула, помню, навокал
І раптам зьбялела, як сьнег,
Што сталася? Нехта з далёка
Так уразіў твае вока
І бледам зьмяніў любы сьмех.

Што гэта? Ці можа птушына
Прад вочмі тваймі ў перабег
Асьнежыла твар твой, дзяўчына,
Мо' гэтая чорна птушына
Прагнала із вусначкаў сьмех?...

*Фр. Грышкевіч.*

# З жыцьця студэнтаў.

(З дакладу Прэзыдыуму АБСА).

## Аддзел міжнародных зносін АБСА.

Пачынаючы ад уступу АБСА ў CIE (Міжнародную Студэнскую Канфэдэрацыю) Аддзел Міжнародных Зносін вядзе чулае супрацоўніцтва з чужаземным студэнствам, а галоўным парадкам з Цэнтралям CIE. Аддзелам у свой час паданы патрэбныя інфармацыі ў часопісі Цэнтралі CIE аб Беларусах і беларускім студэнстве.

У канцы 1926 г. і на пачатку 1927-га вялася чулая перапіска з III-й камісіяй CIE ў справе абмену студэнтамі паасобных народнасьцяў на час фэрыяў. У гэтай-жа справе ў днёх 12 і 13 студзеня 1927 году адбылася нарада ў Бруксэлі (Бэльгія).

Ня гледзячы на тое, што справа абмену для Беларусаў дзякуючы адсутнасьці сваей дзяржавы і сродкаў, актуальнай быць ня можа, на азначанай нарадзе Беларусы (АБСА) былі заступлены іншымі.

У сучасны момант аддзел вядзе перапіску з III камісіяй CIE аб студэнскіх экскурсіях, якія ладзіць вышэйпамянутая камісія. Экскурсіі маюць адбыцца ў Атэны (Грэцыя), да Паўночнае і Паўднёвае Афрыкі (паасобна), Паўночнае Амэрыкі, Жэнэвы (Швайцарыя) і нарэшце IX канфэрэнцыя CIE ў Рыме.

Экскурсіі платныя. Жадаючыя прыймаць удзел маюць зьвяртацца да Аддзелу Міжнародных Зносін АБСА.

З Цэнтралі CIE (Бруксэль) Аддзел атрымаў копіі просьбаў (са ўсімі дакладамі) аб прыняцьці ў сябры CIE ад студэнства Злучаных Штатаў Паўночнае Амэрыкі і студэнтсва Урагвая, па якім на прапанцыю кіраўніка Аддзелу прэзыдыум АБСА 12.III. 1927 г. выняс пастанову: „Вітаць пашырэньне ў сусьветным маштабе студэнскага супрацаўніцтва і выходзячы з гэтага выказацца за прыняцьце вышэйазначаных студэнтскіх Цэнтральных Саюзаў сябрамі CIE.

Першы віцэ-прэзыдэнт CIE п. Макадам (Англія) паведамляе Аддзел аб паразуменьні між CIE і Цэнтраляю нямецкага студэнства, якая да гэтага часу сябрам CIE не была, дзякуючы таму, што арганізавана на прынцыпе нацыянальным, а не тэрыторыяльным і што дамагалася ўраўнаньня нямецкае мовы з францускаю і ангельскаю ў дзелаводзтве CIE. Гэтае пытаньне, як вядома, пазытыўна разьвязана VIII канфэрэнцыяй CIE ў Празе Чэскаў (18—28.VIII 1926 г.).

На IX канфэрэнцыі CIE ў Рыме мае быць дэфінітыўна разьвязана пытаньне ўступу (як сябры) „Deutschen Studentenschaft“ у CIE.

Аддзелу надыйшлі просьбы ад паасобных студэнтскіх Нац. Саюзаў Эўропы аб высылцы ім арыгінальных народных твораў як: сказак, лягенд, старынных жартаў або забаўных апавяданьняў, слоў і нот арыгінальных, народных песень, дзеля надрукаваньня іх у органах паасобных Нацыянальных Студэнтскіх Саюзаў пасярэдніцтвам прэзыдыуму АБСА. Кіраўнік Аддзелу зьвяртаецца да беларускіх культурнікаў з просьбаю аб помачы яму ў гэтай справе.

**Прэзыдыум АБСА.**

# Да нас пішуць.

## Вось дык заробкі!

(З Вoйстамшчыны, Вялейскага пав.).

Трудныя жыцьцёвыя ўмовы вясковага жыхара, кожнаму з нас ведомыя. Селянін нідзе ня мае заработку нат' аднаго гроша, а калі часамі і здарыцца зарабіць дзе-колечы, дык трэба цяжка, цяжка папрацаваць праз цэлы дзень, каб атрымаць хаця 1 зл.

Зусім інакшыя заробкі маюць паны войты, пісары, вучыцелі, паліцэйскія, духоўнікі і іншыя ўраднікі бо яны атрымоўваюць вялізарную пэнсыю, катарая дасягае да 250 зл. ў месяц (болей як 8 зл. у дзень).

А найлепей маецца ў нас ксёндз Войстамскай парахвіі пр. Мочульскі; ён дык за 1-ну гадзіну працы, што пасьвянціў гмінпае памешканьне—атрымаў аж 100 зл., з нашых, сьлязьмі абмочаных падаткаў.

Дзесяты.

## Цёмная справа.

(Асада Самкі, Маўчадзкае гм., Баранавіцкага п.)

Пры шашэйнай дарозе (м-ка Моўчадзь — станцыя Моўчадзь) маляўніча раскінулася ў падножжа нявысокай гары, маленькая вёсачка — асада Самкі. З аднаго боку асады праходзіць чугунка (Вільня—Баранавічы), а з другога — цягнецца ланцуг узгоркаў, пакрытых хвойнымі дрэвамі. У канцы асады, у некаторым аддаленьні ад рэшты дамоў, стаіць пры самым лесе маленькая сялянская хатка, у якой жыве бедная сям'я: Марфа Хаванская, маладая, хворая на сухоты, дзяўчына 23 гадоў, старыя, таксама хворыя бацькі, што знаходзяцца на ўтрыманьні сваей дачкі. 13.-III г. г. разыгралася тут, нябывалая дагэтуль, драма, маючая палітычную падкладку і, дзеля гэтага ўсхваляваўшая ўсё грамадзянства гміны.

Для яснасьці вярнёмся крыху назад і пачнём свае сумнае апавяданьне ад кастрычніка 1925 г. У гэтым часе М. Х. была арыштавана разам з многімі другімі сялянамі (каля 100 асоб з розных вёсак) за прыналежнасьць быццам да КПЗБ. Усе арыштаваныя былі зразумела, пасаджаны ў вастрог. М. Х.—дзяўчына дужа слабая фізычна—пасьля 6-месячнага прабываньня ў Гарадзенскім вастрозе захварэла на сухоты, у выніку чаго на прапазыцыю доктарскай камісіі была звольнена з вастрогу і ўзята пад нагляд паліцыі. Але здароўе яе не палепшала на свабодзе, бо трэ' было працаваць, каб пракарміць сябе і старых хворых бацькоў. Ад рана да вечара працавала яна ў розных мястачковых жыдоў, выпаўняючы часта непасільную работу за мізэрную плату. З нязвычайнай цярплівасьцю пераносіла яна паніжэньні, зьдзекі і паняверкі. Не зварачваючы ўвагі на хваробу, упарта вяла барацьбу з нязўдзячным лёсам за свае існаваньне...

У студзені 1927 г. М. Х. даведалася, што жыхар асады Самкі, I. П. атрымаў ад агента палітычнай паліцыі з Барановіч ліст, у катором гэты апошні прасіў I. П. забіць Х. За гэта агент абяцаў даць яму 500 зл. На запытаньне Х. ці гэта праўда, I. П. адказаў: „праўда“. Аднак падрабязна гэтае справы высьвятліць не хацеў і ліста нікаму не паказаў. Кожны тутэйшы грам-н добра ведае, што I. П. таксама служыць у дэфэнзыве, як канфідэнт, дык і ня мог ніхто зразумець, чаму ён сам распаўсюджвае гэтую вестку. А дзеля таго, што ўсе лічаць яго дурнем, якім ён ёсьць у запраўднасьці, то ніхто гэтай вестцы ня прыдаў вялікага значэньня.

Праз два тыдні пасьля атрыманьня актаў абвінавачаньня М. Х. ў 7 гадз. вечара 13.-III г. г. зайшла да свайго суседа В. пагутарыць аб сваей справе. Усьлед за ёю туды-ж прыйшоў I. П. Бачучы, што Х. зьбіраецца ісьці да дому, ён пасьпяшыў выйсьці з дому першым. Хутка за ім выйшла на двор Х. і, нічога не падазраваючы, накіравалася да свайго дому. Раптам пачула яна, што сільныя рукі схапілі яе з-заду і моцна сьціснулі за горла, а пасьля накінулі мяшок на галаву і павалаклі па дарозе ў хвойнік. Х. з усіх сіл пачала вырывацца з рук цягнуўшых яе трох бандытаў, якія ціха гаварылі між сабой папольску і панямецку. Адзін з іх сказаў: „Трэба тут-жа яе забіць!“ Другі адказаў: „Не, мы павінны зрабіць так, як „умовіліся“ і пацягнулі далей. Тым часам у няроўнай барацьбе, беднай дзяўчыне ўдалося нейкім цудам сарваць з галавы мяшок і ўстуціць ў барацьбу яшчэ больш заядла. Аднаму з напаўшых яна адкусіла палец, другому падрапала да крыві твар. Тады адзін з бандытаў паваліў яе на зямлю, заткнуў рот і моцна сьвязаў. Пры гэтым ударыў Х. па галаве так моцна, што страціла яна прытомнасьць. Што было далей—дзяўчына ня памятае...

Праз паўгадзіны пасьля апісанага здарэньня вяртаўся са станцыі Моўчадзь камандант пастарунку ў м-ку Моўчадзі і заўважыў у ста-

ране ад дарогі нейкі цёмны прадмет, які вісеў на хвойцы. Затрымаўшы фурманку камандант шыбка пайшоў да хвойкі. Тое, што ён убачыў, выклікала-б дрыгату ў самага сьмелага чалавека. На хвойцы вісела М. Х. Ногі яе былі прывязаны да аднае галіны, а рукі — да другое. Шыя была цесна абкручана шалем, а сагнутае цела — вяроўкай. Камандант перарэзаў шабляй вяроўкі, зьняў з шыі шаль і зараз-жа адвёз яе да бацькоў, пасылаючы адначасна па доктара. Пасьля доўгіх забегаў доктару ўдалося вярнуць ёй прытомнасьць, што дала магчымасьць паліцыі сьпісаць паказаньні. На аснове гэтых паказаньняў паліцыя арыштавала І. П., але, па незразумелым для нас прычынам, хутка выпусьціла яго па свабоду. М. Х. ужо 6 дзён, як сноп, ляжыць на парозе сьмерці. Гаварыць хворая ня можа і толькі ад часу да часу вырываюцца з грудзей яе аддзельныя словы—шаптаньне. Паварушыцца таксама ня можа, бо ногі і рукі яе перадушаны вяроўкамі, а сьпіна страшэнна надвярэджана.

Бедная ахвяра палітычных інтрыгаў!..

Ярашэвіч.

### Беларуская вечарына.

(В. Люшнева, Баранавіцкага пав.)

Па ініцыятыве Перхавіцкага Гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры адбылася вечарына ў запустовую суботу 5 сакавіка г. г.

На пачатку вечарыны былі прачытаны наступныя лекцыі: „Беларуская літаратура“, „Значэньне коопэрацыі“ і „Алькаголь і барацьба з ім“.

Гэтыя лекцыі ў лучнасьці з заклікам ісьці да Сьвету Праўды, Дабра і Хараства цераз культурную працу, зрабілі на прысутных вялікае ўражаньне.

Пасьля лекцыяў адбыліся сьпевы і дэклямацыі.

Гр. Шаршанеўскі прадэклямаваў некалькі гумарыстычных куплетаў, гр. Я. Дэшкоўскі — верш Н. Арсеньневай „Шчасьце“ і гр. Я. Кургальскі — верш Янкі Купалы „З прасоньня“.

Вечарына прайшла без ніякіх інцыдэнтаў і закончылася а 3 гадзіне ў ночы.

У гэты вечар у сялянскай моладзі выявілялася жаданьне шукаць новыя шляхі да сонечнай будучыны, да тварэньня гармоніі і праменных формаў жыцьця. Выяўляліся, у яе маладой прыродзе, аптымізм і пад'ём пачуцьцяў імкненьні да Сьвятла і Радасьці.

Сярод прысутных можна было адчуць крык набалеўшай душы і вызвольнае яе ўваскрашэньне.

Вясковы культурнік.

### З тутэйшага жыцьця.

(Бярэза-Картуская, Пружанскага павету).

Двох суседзяў у мястэчку Бярэза-Картуская Антон Белевіч і Цярэнці Міронаў судзіліся ў мясцовага судзьдзі за мяжу сваіх агародаў. У часе разгляду справы, на пытаньне судзьдзі п. Невядомскага, да „павода“ — Антона Белевіча чаму ня добра напісаў заяву (другі раз аб той-жа справе) Белевіч адкрыта адказаў, што заяву гэтак сьпісаў як было напісана ў чарнавіку пана судзьдзі. Гэты адказ зрабіў вельмі нядобрае ўражаньне. Выходзіць, што судзьдзя і судзіць і займаецца адвакатурай. Але гэта была-б малая бяда, калі-б ён пісаў толькі заявы. Гора жыхароў у тым, што той, каму піша заяву ўжо напэўна і выграе такую справу, хаця-бы яна і была несправедліва. Так і тут: той-жа самы Белевіч выграў адразу пяць справаў проці свайго суседа Міронова, бо па ўсіх справах даваў парады і пісаў сам судзьдзя. Праўда, усе гэныя справы акружны суд пакіраваў на карысьць Міронова, але кожнаму вядома, якія вялікія страты панёс Міронаў на адвакатаў і апэляцыі, каб зьмяніць пастановы картускага судзьдзі і, няма дзіва, што Міронаў гэтак зьбяднеў, што застаўся нават без каровы.

Гарачка.

### Пісьмо з Палесься.

У апошнія часы расейская рэакцыя на Палесьсі заварушылася.

Трэба адцеміць, што галоўная кватэра „коренных-русских людей“ знаходзіцца ў Берасьці. У Берасьці яны ўтрымоўваюць гімназію, ў якой русыфікуюць беларускую і ўкраінскую моладзь.

У апошнія часы гэтыя расейцы берасьцянскага вырабу пачулі якісь грунт пад нагамі. 5 сакавіка ў памешканьні мясцовай расейскай гімназіі было наладжана сьвяткаваньне Гогалеўскіх угодкаў. Выступалі з прамовамі дырэктар гімназіі і шмат іншых.

Але вось самае цікаўнае — ў прамове дырэктара пачулася старая, даўно нячуваная мэлёдыя: „Осени себя крестнымъ знаменемъ православный русскій народъ—отъ финскихъ скалъ до пламенной Калхиды; люди русскіе, православные, о великій, могучій“ і г. д.

Слоў ня памятаю і стэнографічнае справаздачы даць не магу. Схапіў я толькі мэлёдыю: сумную,гэткую ім прыемную... зусім як за нябошчыка Мікалая. Гаварылася аб трох „нарѣчіяхъ“ адзінага і непадзельнага народу і іншых бздурствах.

Ідэі старарэжымных зуброў разам з іх насіцелямі аджылі і ня варта аб іх пісаць і разьбіраць іх крытычна. Але шкада, што гэтыя міязмы атручваюць арганізмы моладзі, якая ў будучыне адпакутуе за чужыя грахі.

Obserwator.

## Гаспадарскі аддзел.

### Аб даглядзе фруктовых дрэваў.

У часткі беларускага сялянства ёсьць каля хаты калі не садочак, дык хоць некалькі фруктовых дрэваў, але самых фруктаў, дык рэдка калі можна відзець, бо найбольш здараецца на фрукты няўрод. А няўрод гэты здараецца часта якраз у той час, калі за паўвярсты ў абшарніцкім садзе ад фруктаў аж галіны гнуцца. Дык чаму-ж гэта так здараецца?—А таму што абшарнік мае дагляд за сваім садам; а селянін больш ужо яго не даглядае. Дык і ня дзіва пасьля гэтага, што заўсёды бывае няўроду сялянскім фруктовым садочку!

Усякая рэч, а ў тым ліку і фруктовае дрэва вымагае абслугі і то пільнай і ўмелай абслугі, а калі ня прыложаш рук да чаго, дык яно так і змарнуецца.

Фруктовае дрэва вымагае сталага дагляду і за карэньнямі і за галаменем і за гальлём (крона). Пра дагляд за карэньнямі мы напішым іншым разам, а цяпер раскажам пра дагляд за гальлём.

На старых фруктовых дрэвах растуць часта ўсторч тоненькія галінкі, дык іх трэба позна ў восень або перад вясною абрэзаць і наагул пашырацца гэтакім галінам не даваць. Трэба таксама абрэзаць усе тыя галінкі, якія растуць не на вонкі, а ў сярэдзіну. Трэба абрэзаць усе сухія галінкі ды гэтакія, якія адна аб другую труцца.

Пры кожнай абрэзцы ўсе раны дрэва трэба замазаць садовым клеем, дуплы замошчваць гіпсам, гліваю, або цэмэнтам. Мох які зьяўляецца на гальлі, або якія іншыя лішаі трэба старанна саскрабсьці. Гэта так сказаць толькі ўступ да працы над даглядам. Гэта бязумоўна дапаможа дрэву даць плод, але-ж галоўная праца, дык вось у чым:

Калі ўмела і старанна даглядаць дрэва, дык яно пачне штогод даваць фрукты.

Калі ідзе аб дагляд за гальлём фруктовага дрэва, дык гэта робіцца так: Трэба прыкмеціць якая галінка не дае фруктаў, або дае іх мала, а ўжо ўвосень, ці на прадвесьні гэтакую галінку трэба зрэзаць не зусім, а толькі, калі галінка вялікая, дык палавіну. Гэта робіцца дзеля таго, што ад гэтакае галінкі пайдуць пасынкі, якія за адзін год значна падрастуць, дык пасьля трэба ўжо ізноў усе гэтыя пасынкі разгледзяць і тыя, якія будуць прыдатнейшыя пакінуць, а горшыя абрэзаць на чыста. Апэрацыя гэтакая карысная тым, што маладыя галінкі будуць ужо пладнейшымі. Але-ж гэтакай апэрацыі ня трэба рабіць адразу над многімі галінкамі, а паступова і то толькі над тымі, якія вымагаюць гэтага.

Калі галінка мае даўжыні 3—4 вяршкі, дык абрэзку можна рабіць перад чацьвёртым лістком і то, толькі да палавіны красавіка, калі дрэва яшчэ не распусьцілася.

Уся гэтая праца бязумоўна вымагае стараньня і любасьці да таго, над чым працуем. Таксама ўва ўсіх гэтых апэрацыях трэба быць уважлівым, каб часам посьпехам ці няўважлівасьцю не пашкодзіць дрэву.

## НАШАЯ ПОШТА.

**Я. Окушко:** Праграму інструкцыі і заяву паслалі.

**Л. Сьлёзка:** Верш атрымалі, зьмесьцім крыху пазьней.

П. Шыбуту, Прахімовічу, А. Мытыльскаму, Сьлёзцы А., Гонаму, Чарнюкевічу: Карэспандэнцыі атрымалі, памагчымасьці зьмесьцім.

**Пракопцу:** Вашыя вершы і жарты заслабыя.

**Ярашэвічу:** „Не парцэляцыю а спэкуляцыю“ дасталі, надрукуем.

**Залану:** „Беларус ад сну прабуджаецца“ дасталі, памагчымасьці надрукуем.

**Сонураку:** Карэспандэнцыі атрымалі.

Рашэтніку А., Машчонскаму М., Марозу М., Бірану А., Ждану К., Бірану А., Ціхановічу Ул., Крупічу І., Шуманскаму Ю., Машчанскаму Я., Сенько М., Гарноўскаму Ул., Коту А., Шкулене П., Арлу Я., Шмыку І., Лейкевічу М., Каролку А., Ждану А., Анішчыку М., Раманоўскаму Я., Алесяву М. Ярошу Ф., Качорнаму П., Маркевічу М., Безусаму А., Чубрыку Ш., Лукшэвічу М., Саку К., Саку А., Менкоўскаму Я., Чырчыку У. — пробны нумар паслалі.

Данішэвічу Я., Окушцы Я., Бельскаму М., Садоўскаму В., Уласіку Ф., Баркоўскаму С., Марозу К., Раманчыку М., Матусэвічу Г., Мамончыку М., Куневічу М., Глыбокаму П., Трахімовічу А., Мікуце Ф., Галавачу Ц.—газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Дубовіка Івана—3 зл.; Шлюхі Балеслава, Русіна Міхася, Скуліна Пётры, Гадузы Рафала Міхнюка Уладзіміра—па 2 зл.; Цішасловіча Пётры—1 зл.

### Друкарская абмылка.

У № 31 „Сял. Нівы“ абмылкова надрукавана ў артыкуле „Родныя Гоні“ слова „Намаш“, замест „Нямаш“; а таксама ў „павялічыць людзёў“ замест „павялічыць лічбу людзёў.

### Афяры на палітычных вязьняў.

Атрымана на палітычных вязьняў ад гр. Мурашкі Юстына 5 зл.

## АБВЕСТКІ:

### Дзяржаўная школа будаўляных рамёслаў у Вільні, Капаніца № 5.

Запісы не аддзелы: мулярскі і цэгельскі распачынаюцца ад сягоньня і працоўжыцца да 1-га траўня.

Курс навукі правідлова трывае 2 гады і дзеліцца на 2 сэзоны: зімовы і летні. Зімовы тэорэтычны—зачынаецца ад 1 лістападу, а канчаецца ў сакавіку і ахапляе: рэлігію, паляністыку, арытмэтыку, геамэтрыю, фізыку, пачаткавую веду з хіміі, будаўляныя матэрыялы, будаўніцтва, рысункі. Летні сэзон практычных заняткаў адбываецца на будове, пачынаючы ад Вялікадня аж да 15 кастрычніка.

Вакацыйны час—адпачынковы—трывае два тыдні вясною і ў восень.

Прыймо вучняў адбываецца 2 разы на год: у восень перад пачаткам тэорэтычнага курсу і вясною на практычны курс будовы.

Вучань па аканчаньні школы атрымае школьнае пасьведчаньне сталай, здольнай працы у выбранай спэцыяльнасьці.

Навука ў школе дармова.

Пры школе для бедых вучняў ёсьць бясплатная бурса (інтэрнат), дзе вучні атрымліваюць сталаваньне і супольнае памешканьне.

#### Варункі прыняцьця.

1. Аканчаньне 16 гадоў, а дзеля гэтага трэба мець мэтрыку нараджэньня.
2. Аканчаньне 3 аддзелаў пачаткавай школы, ці адпаведны экзамен.
3. Пасьведчаньне маральнасьці з парахвіі.
4. Пасьведчаньне аб прышчэпе воспы.
5. 2 фатаграфіі.

Заявы прыймае і інфармуе школьная канцэлярыя штодня ад гадзіны 7 раніцы да 12 паўдня ў Вільні, на вуліцы Капаніца № 5.

Вільня, 1927 г. **Дырэкцыя школы.**



Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.